*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 13(121) ◈ 31 сакавіка 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

# ДВУХМОЎЮ І ВАЕННАМУ САЮЗУ З РАСІЯЙ—НЕ!

***У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ***
***У САВЕТ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ***

У апошні час у рэспубліцы робяцца спробы патаемна ад грамадскасці правесці чыноўніцка-апаратны рэферэндум па пытанні ўвядзення ў Беларусі дзяржаўнага двухмоўя. Так, III з'езду Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны стала ведама, што Міністэрства адукацыі рэспублікі накiравала ва ўстановы вышэйшай школы запыты аб увядзенні рускай мовы ў якасці дзяржаўнай у Беларусі.

З'езд выказвае рашучы пратэст супраць спробы некаторых службовых асоб органаў дзяржаўнай улады і кіравання, асобных грамадска-палітычных груповак рэспублікі насуперак нацыянальным інтарэсам народа Беларусі ўвесці ў краіне дзяржаўнае двухмоўе. З'езд патрабуе спыніць любыя спробы з боку адказных работнікаў дзяржаўных структур, парушаючы Канстытуцыю і дзейнае заканадаўства, абвастрыць штучнае пытанне аб наданні рускай мове дзяржаўнага статуса, інспіраваць акцыі грамадскай падтрымкі гэтай антынароднай ідэі і адклікаць правакацыйныя запытанні ад дзяржаўных органаў кіравання, якія таемна дасылаюцца шэрагу працоўных калектываў рэспублікі.

З'езд заклікае Вярхоўны Савет, Урад незалежнай Беларусі, усіх грамадзян рэспублікі забяспечыць поўнае і своечасовае выкананне моўна-культурнага заканадаўства краіны. Беларускае адраджэнне — справа гонару і сумлення ўсіх грамадзян, усіх сыноў і дачок нашай Бацькаўшчыны.

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ І ВЕЧНА ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ МОВА!**

---

Незалежнасць Беларусі — гэта гарантыя і абавязковая ўмова адраджэння беларускае мовы і нацыянальнае культуры. III з'езд Таварыства беларускай мовы выказвае рашучы пратэст супраць дзеянняў органаў улады Беларусі, скіраваных на абмежаванне і фактычнае знішчэнне яе суверэнітэту. З'езд перасцерагае Вярхоўны Савет і Урад ад прыняцця рашэнняў, якія парушаюць Дэкларацыю аб суверэнітэце і нішчаць нейтралітэт нашай краіны. З'езд катэгарычна пярэчыць спробам уцягнуць Беларусь у вайскова-палітычны саюз з Расіяй.

***ДОСЫЦЬ БЫЦЬ ЗАЛОЖНІКАМІ ЧУЖОЙ ПАЛІТЫКІ!***
***НЕ — ВОЙНАМ ЗА ЧУЖЫЯ ІНТАРЭСЫ!***
***ТАК — СВАБОДЗЕ І НЕЗАЛЕЖНАСЦІ!***

III з'езд ТБМ.
Менск, 26 сакавіка 1993 г.

**26—27 САКАВІКА Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЎСЯ III З'ЕЗД ТБМ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ.** У ім прынялі ўдзел каля 200 дэлегатаў ад суполак і дзесяткі прадстаўнікоў ад зацікаўленых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. На жаль, не было тых, ад каго найбольш залежыць выкананне Закона аб мовах.

Дэлегатамі з'езда быў разгледжаны шэраг пытанняў. Галоўнае з іх — дзейнасць Таварыства па ажыццяўленні Закона аб мовах. З дакладам выступіў старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч. У абмеркаванні даклада і ў спрэчках выступілі Я. Цумараў, А. Трусаў, Ю. Хадыка, айцец Аляксандр Надсан, айцец Ян Матусевіч, Я. Брыль, П. Краўчанка, В. Вячорка, Л. Лыч, А. Мальдзіс, А. Белы, Л. Цімохін, С. Запрудскі, М. Ермаловіч, В. Адамчык, Г. Цыхун, З. Санько, Э. Ялугін, спадары Суднік, Шамак, Грышан і іншыя.

Разгледзеўшы пытанні, якія стаялі перад дэлегатамі, з'езд прыняў адпаведныя пастановы. У Вярхоўны Савет адпраўлены пратэсты наконт антыбеларускага апытання пра двухмоўе і ваеннага саюза з Расіяй. Старшынёй ТБМ імя Ф. Скарыны аднагалосна абраны народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Падрабязныя матэрыялы з III з'езда ТБМ будуць змешчаны ў бліжэйшых нумарах «Нашага слова».











Прагрэсіўная грамадскасць Беларусі ў гэтыя дні адзначае 75-ыя ўгодкі БНР. 19 сакавіка ў Доме літаратара працавала Навуковая Акадэмія, прысвечаная БНР. 22 сакавіка ў Менск на святкаванне прыляцеў з ЗША спадар Язэп Сажыч, які з'яўляецца старшынёй Рады БНР. 23 сакавіка ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрыта выстава. 24 сакавіка ў Палацы мастацтва адкрыта выстава «Адраджэнне-93» творчай суполкі «Пагоня». 25 сакавіка ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі прайшоў урачысты сход і святочны канцэрт. 27 сакавіка ў Вільні на могілках Росы адкрыты намагільны помнік братам Луцкевічам. Да 75-ых угодак БНР у Маладзечне на цэнтральнай плошчы горада адкрыты мемарыяльны знак «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі». Адкрыцця мемарыяльнай дошкі ў Менску на доме № 9 па вуліцы Валадарскага (братоў Луцкевічаў) «знаўцы гісторыі» не дазволілі.

На здымках: 21 сакавіка. Святочны мітынг у гонар БНР у скверы Янкі Купалы.

Фота Лявона ЛІПЕНЯ.

# ХУТКА НЕ БУДЗЕ ЧАГО АДМЕРВАЦЬ...

*(Адказ вучоным землякам з Новасібірска)*

***З вялікім сумам прачытаў адкрыты ліст Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь «Семь раз отмерьте...» («Советская Белоруссия», 16.XII.92), які напісалі паважаныя члены Расійскай акадэміі навук, кіраўнікі Сібірскага аддзялення, нашы землякі-беларусы. Асабліва ўзрушыла тое, што сярод іх быў мой даўні знаёмы, мой старэйшы сябра, выдатнейшы вучоны геолаг-нафтавік, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат многіх прэстыжных прэмій Андрэй Аляксеевіч Трафімук. Ён нарадзіўся на Брэстчыне, пакінуў родны кут у дзяцінстве, і з таго часу працуе ў Расіі, стаў поўнасцю рускамоўным, але ў апошнія гады некалькі разоў прыязджаў на Беларусь і досыць добра ведае сучасны стан беларускай мовы на Радзіме. А стан гэты жудасны...***

Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы мала што змяніў: мова аднаўляецца і адначасова працягвае паміраць. Безумоўна, зрухі ёсць, і ўжо беларускую літаратуру і мову ў школах, здаецца, не вывучаюць па-руску, як гэта было раней. Адно ясна: наша мова, можна сказаць, ужо трапіла ў Чырвоную кнігу. Разам з моваю туды ж трапілі і беларусы, бо без мовы няма і народа. За апошнія 73 гады знікла каля 50 моў народаў былога СССР, прычым гэты працэс растварэння малых народаў у большых пільна працягваецца. Няўжо і беларусы ў хуткім часе трапяць у гэты лік?

Хіба беларуская мова горшая за іншую? Яна так лёгка можа дайсці да сэрца чалавека, асабліва беларуса. Я вельмі добра памятаю слёзы на вачах Андрэя Аляксеевіча, калі ён у сваё 80-годдзе пачуў прывітанне, якое я зачытаў яму на беларускай мове. Ён казаў, што яму так прыемна і радасна пачуць беларускую мову ў далёкім Новасібірску.

Паважаныя сібірскія вучоныя-беларусы ў сваім артыкуле намякаюць, што на Беларусі ў абарону двухмоўя (гэта значыць у абарону рускай мовы, якая і так пануе тут) «по известным причинам» (відаць па боязі) «предпочитают помалкивать», у тым ліку і Акадэмія навук і «живущие в Беларуси специалисты». На жаль, сапраўды большасць людзей памоўчваюць, калі справа ідзе аб абароне беларускай мовы, а ў многіх намаганні зрабіць рэальным Закон аб дзяржаўнай мове выклікаюць надзвычайную нянавісць і злобу. Дастаткова ўспомніць нядаўняе пісьмо студэнтаў і выкладчыкаў Віцебскага педінстытута. Цікава адзначыць, што супраць беларускай мовы вельмі часта выступаюць людзі не рускай ці іншай нацыянальнасці, а менавіта беларусы. Манкурства так іх ахапіла, што яны сталі самымі актыўнымі ворагамі беларускай мовы.

Новасібірскія беларусы пішуць, што іх «...беспокоят начавшиеся в последние месяцы попытки принуждения к переходу на белорусский язык и точных наук, и техники»...

Перш-наперш такой з'явы няма ні ў рэальным жыцці, таксама яна не прадугледжана і ў Законе аб мовах. Навуковыя працы ў галіне дакладных навук і тэхнікі як друкаваліся, так і друкуюцца амаль поўнасцю на рускай мове.

І наогул беларускаму вучонаму ніколі не пагражае ізаляванасць ад няведання рускай мовы, бо такое і ў сне ўявіць немагчыма. З другога боку, нашы абедзьве мовы (таксама як і ўкраінская, і польская) вельмі зразумелыя адзін аднаму, асабліва калі гэта датычыцца навуковай тэрміналогіі, якая ў большай частцы з'яўляецца інтэрнацыянальнай.

Я зноў жа хачу нагадаць шаноўнаму А. А. Трафімуку той час, калі ён прыехаў у Менск на 50-годдзе Акадэміі навук БССР і слухаў мой даклад аб развіцці на Беларусі навук аб Зямлі. Я зрабіў даклад на беларускай мове, і Андрэй Аляксеевіч адзначыў, што ён поўнасцю зразумеў думкі, выказаныя ў прамове.

Я цалкам згодзен з аўтарамі артыкула аб тым, што нельга замыкацца толькі ў сваёй мове, што навука заўсёды імкнулася да нейкай агульнай мовы, каб веды і адкрыцці распаўсюджваліся шыбчэй і шырэй. Некалі такую ролю выконвалі грэчаская, затым лацінская, а зараз ангельская мовы. Таму неабходна друкаваць на больш распаўсюджаных мовах, і ў першую чаргу, такіх як ангельская, руская дасканала поўныя рэфераты артыкулаў, якія былі апублікаваныя на нацыянальных мовах. Безумоўна, мэтазгодна найбольш цікавыя працы друкаваць на рускай і ангельскай мовах як у сваёй краіне, так і асабліва ў розных расійскіх і іншых міжнародных часопісах. Усё гэта можна вельмі добра рабіць пры дзяржаўнасці толькі адной — беларускай мовы, і неабавязкова з такой мэтай мець «законнае» двухмоўе, бо ў рэальным жыцці яно і так будзе.

Не трэба супрацьпастаўляць развіццё нацыянальнай мовы (у тым ліку і навуковай тэрміналогіі) і распаўсюджванне навуковых ведаў праз больш пашыраную мову. Неабходна клапаціцца і аб адным і аб другім.

Улічваючы сучасны стан беларускай мовы, прыняцце Закона аб двухмоўі адзначала б самагубства для беларусаў. Згуба мовы, а з ёй і цэлага народа — вось гэта і было б «опасной ошибкой» і тое, «что впоследствии будут называть «гримасой истории». Трэба ўсвядоміць, што для беларусаў настаў час магчымага апошняга Адраджэння — ці яно будзе, ці змарнее зусім, а з ім загіне і беларушчына. Адраджэнне павінна быць інтэгральным, комплексным: яно датычыцца не толькі абавязкова аднаўлення эканомікі і палітыкі.

**Радзім ГАРЭЦКІ,**
**акадэмік, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі.**

## ПРЫНІЖАЕЦЦА ГОДНАСЦЬ ДЗЯРЖАВЫ

І зараз усіх, хто ўваходзіць у будынак Віцебскага гарвыканкама, сустракаюць шыльды са старымі (бэсэсэраўскімі) надпісамі.

Нягледзячы на перасяленне ўстановы ў колішні будынак КПБ ужо тады, калі былі зацверджаны новыя назва і герб нашай краіны, старыя выканкамаўскія шыльды, «выціснуўшы» партыйныя, «зажылі» і тут па-старому.

Не ведаю, чым тлумачыўся «дазвол» на іх існаванне. Мо адыграла сваю ролю надзея на вяртанне былой «савецкай сацыялістычнай»? Магчыма, што было і такое меркаванне: чаго спяшацца, калі ні эталонаў герба, ні ўзораў новых шыльдаў пакуль няма?

Лічу, што старыя шыльды прыніжаюць годнасць нашай дзяржавы.

г. Віцебск. **Ю. СЦЯПАНАЎ.**

## Шукаю сяброў

*Мяне завуць Таццяна. Мне 22 гады. Я люблю сваю Радзіму — Беларусь і таму цікаўлюся ўсім, што звязана з ёю. Але ў маім асяроддзі няма людзей, якія б цікавіліся тым, чым я. А хочацца мець сяброў, з якімі б можна было паразмаўляць менавіта і на такія, хвалюючыя мяне тэмы. Ды яшчэ і з-за свайго характару мне цяжка іх знайсці — сыходжуся я з людзьмі няпроста, нават не магу першая пачаць размову. Таму і спадзяюся на ліставанне. Калі хто з аднагодкаў захоча адгукнуцца на гэты мой ліст, напішыце мне, калі ласка, на адрас: 246031, г. Гомель, вул. Рошчынская, д. 6, кв. 19, Міхальцова Таццяна.*

*Сказана*

## З «ЛІСТОЎ З БЕЛАРУСІ»

...Пекная гэта галіна славянскай мовы — той крывіцкі дыялект — і старая! Бо гэта мова нашага Літоўскага Статута і заканадаўства на працягу двух стагоддзяў — XVI і XVII. І пашыраная! Бо смела можна сказаць, што на ёй размаўлялі тры чвэрці даўняй Літвы: народ, шляхта і паны...

23.6.1855.

Гэта мова народа Літоўскай Русі тым больш заслугоўвае назвы асобнага дыялекту, што як галіна русінскай мовы мела сваю багатую мінуўшчыну. У Літве пры Альгердзе і Ягайле яна была афіцыйнай і рэпрэзентацыйнай мовай двара, пазней стала афіцыйнай мовай спраў і актаў, пасля пакінула каштоўны пісьмовы помнік— Статут Літоўскі, а таксама колькі кніжак і казанняў з часоў рэлігійных палемік. Ужывалася на сеймах, хоць тут, здаецца, апошняе яе слова прагучала разам са слаўнай прамовай сумленнага Мялешкі пры Зыгмунце III; аднак яшчэ ў часы Яна Казіміра яна была мовай прыватнай карэспандэнцыі, доказам чаго служыць пісьмо Цыпрыяна Камунякі да Абуховіча. Выцесненая потым з афіцыйнай арэны латынню і польскай мовай, яна засталася ў хатах, крытых саломай ці дранкай, у сваёй спрадвечнай чысціні.

1861.

Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ.

● *Набалелае* ●

# *Бабруйск — правінцыя, або Начальніку загадаюць, і ён усё перавядзе на беларускую мову*

***Я жыву ў «глухой правінцыі» — у Бабруйску. Нехта ўсміхнецца: Вось дык правінцыя!» Так, шаноўныя чытачы, большай правінцыі мне бачыць не даводзілася. Паглядзелі б вы, як усё застаецца па-ранейшаму: як кіравалі, так і кіруюць адны і тыя, спасылаючыся на розныя аб'ектыўныя і неаб'ектыўныя прычыны, каб толькі нічога не рабіць, не мяняць.***

Дакладна не ведаю, але дзесьці з сарака з лішнім тысяч школьнікаў-бабруйчан толькі тысячы з дзве вывучае родную мову. Прычын тут мноства. Бабруйск — гэта горад вайскоўцаў. Ехалі сюды людзі з усяго Саюза, хто заставаўся, хто пераязджаў, але прынцып навучання дзяцей быў адзін: навошта вывучаць нацыянальную мову, калі прыйдзецца праз год-другі мяняць месца жыхарства? Яно то можа і так, але ж мову, шаноўныя, за плячыма не насіць, нават калі па-простаму разважаць. Традыцыя гэтая існуе і па наш дзень, нягледзячы на тое, што войска значна паменшала ў горадзе, а ў бліжэйшыя гады стане яшчэ менш. Бабруйск — гэта і горад адстаўнікоў. Менавіта большасць з іх самыя заўзятыя праціўнікі ўсяго беларускага. Робіцца балюча на душы, калі ўспамінаю, як яны выступалі супраць новага дзяржаўнага сцяга і герба, як смяяліся з беларускіх «зайчыкаў» і «вавёрачак»: «Наясцеся! Прападзеце без Расіі! Яна вас карміла і корміць!» За што яны плявузгаюць на народ, на зямлі якога суцэльныя Курапаты і ад бальшавікоў і ад фашыстаў? Зірнеш на такога і кінеш: «Дык едзь да сябе, чаго ж тут застаўся? Карміць мяне будзеш, а то галадаю!» Зараз гэтыя адкрытыя заявы-воклічы прыціхлі. Прыціхлі пасля таго, як наглядзеліся-наслухаліся, што робіцца ў іхняй Расіі ды на яе ўсходніх граніцах. Стала толькі і чуваць: «Ой, у Маскве!.. Ой, у Пецярбургу!..» І аглядваюцца, шукаючы спачування, але з кожным днём яго будзе ўсё меней і меней. Гэтыя людзі паспелі зрабіць яшчэ адну благую справу. Убілі ў галовы многім, што беларуская мова нікому не патрэбна! Нават іхнія дзеці, якія выраслі ў нас, не ведаюць яе. Цяпер ужо ў школах іхнія ўнукі.

Адносна бабруйскіх школ трэба сказаць асобна. Усе, бясспрэчна, ведаюць пра тое цяжкае становішча, у якім апынулася наша адукацыя, настаўнікі. Урад рэспублікі прымае рашэнні, указы, пастановы, але яны не надта аператыўна дзейнічаюць на месцах. Тут ёсць прычыны «мясцовай» прывязкі. Першая з іх — не хапае спецыялістаў і літаратуры. Асабліва па новых дысцыплінах. У ВНУ па-ранейшаму набіраюць аднолькавую колькасць абітурыентаў і на рускае і на беларускае аддзяленні, зараней ведаючы, што выпускнікам рускага аддзялення цяжка знайсці працу. Беларускіх жа выкладчыкаў катастрафічна не хапае. Не вырашаецца для настаўнікаў жыллёвая праблема і многае іншае.

З падручнікамі тут значна складаней. Іх проста не паспелі падрыхтаваць, выпусціць. Знойдзецца і адгаворка — тэрмін малы. Не малы, шаноўныя! Паспелі за гэты кароткі час гэтулькі Марыян і Эмануэляў упіхнуць у бедныя дзіцячыя галовы, што выбіць іх адтуль нейкай іншай інфармацыяй будзе надзвычай цяжка.

Многія настаўнікі разводзяць рукамі — няма метадычнай літаратуры. Але гэта далёка не так. Як процьма. Трэба толькі пасядзець, сабраць, сістэматызаваць і не чакаць нейкай новай метадычнай распрацоўкі, дзе ўсё будзе адзначана па хвілінах. Дзейнічаць трэба самастойна, выпрацоўваць сваю методыку выкладання. Проста ніхто не хоча гэтым займацца.

Дарэчы, наконт слова «загадаць»: з ім, напэўна, мы ўжо і памром, гэтак моцна яно ў нас асела. Даволі часта даводзіцца чуць ад знаёмых дырэктараў школ: «Мне загадаюць, і я хоць заўтра перавяду ўсё выкладанне на беларускую мову!» Пакуль не загадаюць, бо і ў мясцовыя аддзелы народнай адукацыі, мабыць, яшчэ таксама не паступіў катэгарычны загад.

У горадзе было даволі многа бібліятэк (некаторыя чамусьці закрываюцца). Але калі трапляеш туды, то... плакаць хочацца. Кнігу, якая выйшла дзесяткі два гадоў назад, нельга знайсці. Складана зараз і з камплектацыяй бібліятэк. Тое, што сюды паступае, не адпавядае апошнім зменам у нашым грамадстве і не зможа дапамагчы разабрацца ў складаных літаратурных ды гістарычных працэсах.

Тое ж самае можна сказаць і пра кнігарні. Тут, праўда, ёсць новае — амаль ва ўсіх з іх пачалі прадаваць не толькі кнігі, але і... абутак, трусы, шапкі і г. д. Камерцыя, нічога не скажаш! Але ж літаратура, якая паступае сюды, — гэта пераважна Чэйзы і Друоны. А калі пачынаеш дапытвацца пра выданні беларускай літаратуры, гісторыі, краязнаўства, культуры, то глядзяць на цябе, нібы ты з самой Машай Распуцінай у адным хоры спяваеш! Няма нічога.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ.**

# Вучымся!

## *ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА*

1. Прачытайце словы, звярніце ўвагу на вымаўленне прыназоўніка *з*.

| | |
|---|---|
| з аўторка [з] | з жэрдак [ж] |
| з нядзелі [з'] | з жалудоў [ж] |
| з суботы [с] | з чароту [ш] |
| з пятніцы [с'] | з шыферу [ш] |
| з серады [с'] | з жалю [ж] |

2. Прачытайце тэксты, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў. Асаблівую ўвагу звярніце на выдзеленыя словы.

*Тарас ХАДКЕВІЧ*

### Вясна

Як і штогод, вясна прыйшла ў магутным шуме паводак, у серабрыстым звоне ручаёў, у *несціханым спеве* жаваранкаў, у шаўкавістым *шапаценні* першай зеляніны на пожнях. Сонечнымі ключамі яна адамкнула *дзверы* цёплым вятрам *з поўдня*, і яны *панеслі* па прасторах неўгамонную яе сілу, перад якой скарылася зіма, *паспешліва* адступіла *з лютымі* маразамі, сіверам, завеямі ў паўночныя далі.

...Надвор'е ўсталявалася цёплае, парнае.

*Янка КУПАЛА*

### Летняя раса

Як брыльянты, *рассявае*
*Ночка* летняя расіцу,
Туманамі спавівае
*Луг* зялёны над крыніцай.
А як раніца настане,
Бляскі сонца *загуляюць*,—
Рос прыходзіць *адцвітанне*,
Туманы у *рэчцы* таюць.
Як брыльянты, гінуць росы
На зялёнай *сенажаці*,
Сонца косы, нашы косы
Не *даюць* паўдня ім знаці.

*І. НАВУМЕНКА*

### Пачатак восені

Пачыналася восень. *Яшчэ горача свяціла* сонца, **зусім па-летняму** дрыжала сінеаватая *смуга* над пыльнай *дарогай*, у кустах крушыны *свісталі* вясёлыя дразды. Буяла *яшчэ* на *лугавінах* зялёная атава, у палісадніках ля вясковых хат наперагонкі хваліліся сваёй *прыгажосцю* жоўтыя *вяргіні* і астры. Але ўсеўладная восень неадступна цікавала за *гэтымі* апошнімі праявамі *хмельнага летняга жыцця*. Яна ўжо заслала суцэльным залацістым абрусам палі збажыны, *злёгку* пазалаціла шаты *разгалістых* прыдарожных бяроз, а паветра напаіла той *празрыстасцю* і *чысцінёй*, якая бывае толькі цёплай *лагоднай восенню*.

*М. ЛЫНЬКОЎ*

### Зімой

Хораша ў полі зімою...

Серабрыцца *снег, мігацяць незлічоныя* мільёны брыльянцістых *іголак*, вецер-кусака *шчыпле* за *шчокі*, нос. Забіраецца за каўнер, невідзімкаю прабіраецца пад кажух са сваёй халоднай *пяшчотай*.

...Надыходзіць вечар, сінеюць *снегавыя гурбы*, ад бледнага месяца *цягнуцца* празрыстыя промні і не ззяюць, а тлеюць над лесам і полем. Сінія *цені* плывуць за кустамі, кладуцца ў баразёнкі, у *снегавыя* сумёты. А зоры, тыя нібы вылецець *хочуць* са сваіх гнёздаў, да таго зыркія, *бліскучыя* яны ў марозным паветры.

І салодкі сум закрадвацца ў сэрцы, ціхі сум, непазнаны.

#### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце звесткі пра надвор'е і народныя прыкметы, перакажыце. Дапоўніце свой адказ прыкметамі, якія ведаеце Вы.

## *Урок дзесяты*

Калі сонца заходзіць за чысты ружовы небасхіл, у наступныя дні будзе сухое надвор'е. Калі колер неба жаўтаваты або зеленаваты, магчымасць пагоднага дня **яшчэ большая, бо такія** колеры спадарожнічаюць выключна сухому паветру.

Непагадзь, перад тым як абрушыцца на наваколле, падае аб сабе характэрныя сігналы. Вось асноўныя з іх.

Увечары становіцца цяплей, чым было ўдзень.

Аблокі рухаюцца супраць ветру ці перпендыкулярна яму.

Ноччу няма расы.

Туман знікае да ўсходу сонца ці **падымаецца ўверх.**

Дым ад вогнішча ці з коміна сцелецца гарызантальна.

**Ластаўкі** лётаюць нізка над зямлёй.

Увечары сонца заходзіць за хмару.

2. Спішыце прыказкі і прымаўкі і скажыце, якой тэмай яны аб'ядналы. Растлумачце вядомыя Вам арфаграмы.

**Жураўлі нізка,** зіма ўжо блізка. Зіма снежная — лета дажджлівае. Калі год сухі, купляй пчолку, а калі мокры — кароўку. Не прасі лета доўгага, а цёплага. Улетку кожны кусцік начаваць пусціць. Калі родзяць грыбы, то і жыта зародзіцца. На адзін год многа прыгод. Чым ноч цямней, тым агні відней. У лютым вострыя мароз — кароткая зіма. Сакавік часам снегам вее, а часам сонцам грэе. Красен красавік цяплом, а жнівень дабром. У сакавіку туман — у жніво дождж пан.

3. Падрыхтуйце паведамленні паводле наступных сітуацый, выкарыстайце пры гэтым народныя прыкметы змены надвор'я.

* Вясной Вы ў дарозе і пазіраеце за прыродай.
* У спякотны летні дзень Вы ў полі (на лузе, ля ракі).
* Вас застала навальніца ў дарозе.
* Вы ў асеннім парку (лесе).
* Вашы разважанні пра раннюю зіму.
* Марозным ранкам Вы на аўтобусным прыпынку.

## *Вайскоўцам пра родную мову*

4. Адкажыце на пытанні паводле тэксту Міхася Ткачова «Першыя абарончыя збудаванні».

**Дзе ўзнікалі першыя абараончыя збудаванні?**

**Чым умацоўваліся гарадзішчы?**

**Чым абкладваліся валы?**

**Пра сувязі з якімі краінамі сведчаць археалагічныя помнікі Панямоння і Тураўскай зямлі?**

5. Спішыце тэкст і растлумачце вядомыя Вам арфаграмы. Выдзеленыя словы змяніце так, каб замест **о** вымаўлялася **а**.

Ён спадзяваўся, што наступленне ў **цэлым** будзе паспяховым. Тое, што ён ведаў пра сілы праціўніка з разведвестак, што ведаў пра свае *войскі*, пра падрыхтаванасць да такой складанай аперацыі, давала яму падставы так лічыць. *Падрыхтоўка зроблена* ў цэлым *добра*, ёсць дастатковая перавага ў людзях і асабліва ў тэхніцы. Але ўсё гэта не давала яму спакою. *Поспех* залежаў не толькі ад яго. Залежаў ад многага і ад многіх. Ён бачыў: ёсць *здольныя, з творчым розумам* камандзіры і ёсць недалёкія, без божай іскры выканаўцы. А да гэтага — хто можа сказаць, што і ў яго не было ніякіх памылак у разліках, у выбары, напрыклад, месца для прарыву? І хто можа сказаць, як *дорага* абыдуцца яго і іншых камандзіраў памылкі і пралікі?

## Тлумачэнне новай тэмы: Правапіс е, ё — я

Прачытайце словы, пастаўце ў словах націскі. Звярніце ўвагу на напісанне націскных і пераднаціскных складоў.

| | |
|---|---|
| Вербы — вярба | вёслы — вясло |
| след — сляды | сёстры — сястра |
| лечыць — лячыць | вёў — вяду |
| несці — нясуць | нёс — нясу |

Літара **ё** пішацца толькі пад націскам: *вясёлка, палёт, цёплы.*

У першым складзе перад націскам замест **е, ё** пішацца **я:** *мёд — мядовы, лес — лясы, бегчы — бягом.* Выключэнне складаюць словы *дзевяты, дзесяты, семнаццаць, васемнаццаць* і словы іншамоўнага паходжання: *зенітка, медаль, перон, сезон, педаль, метро, бензін* і інш.

Ва ўсіх іншых ненаціскных складах асновы пішацца **е:** *песняры́, во́зера, ве́цер, цецерукі́, цесляры́.*

Карэннае **я** пішацца незалежна ад месца націску: *яр — яравы — яравізацыя, свята — святкаваць.*

Словы *не* і *без* заўсёды пішуцца з літарай **е**, але перад націскным складам гук [э] чытаецца, як [а]:

| ПІШАМ | ЧЫТАЕМ |
|---|---|
| *не хоча* | *ня хоча* |
| *не просіць* | *ня просіць* |
| *без радасці* | *бяз радасці* |
| *без волі* | *бяз волі* |

#### ЗАМАЦАВАННЕ

1. Спішыце тэкст, растлумачце напісанне літар **е, ё, я** ў выдзеленых словах.

### Вясновы дзень

Дзень быў ясны, *цёплы. Снегу* ўжо зусім не было на палях. Ажылі балоты. Жалобна застагналі кнігаўкі. Высока ў *небе звінелі* жаўранкі. *Зямля* пачала іскрыцца *зялёным* аксамітам кволай пахучай травы.

Там і сям на ўскраінах *лясоў* распускаліся маладыя лісточкі *бярэзінак*. Жоўтыя каткі звісалі на *вербалозінах. Зялёныя* лісцікі павыбіваліся ўжо на *свет* скрозь сухія галінкі. Прынадныя пахі разлівала ў *паветры* маладая чаромха.

Адны толькі паважаныя дубы *не вельмі спяшаліся* расчыніць свае покаўкі і выпускаць адтуль *свежую зелень*. Дуб — мудрае дрэва. Не паддаецца ён на зман *няпэўнай* у пачатку *вясны цеплыні.*

**Паводле Якуба КОЛАСА.**

2. Спішыце словы, падкрэсліце націскны склад, пастаўце патрэбныя літары **е** ці **я.**

*Снег — сн.гі, сн.жынка, сн.гавік*

*Цёплы — ц.пло, пац.плела, ц.плыня*

*Светлы — св.тло, св.тлець, св.тлаваты*

*Цёмны — ц.мней, ц.мнець, ц.мнаваты*

*Звер — зв.ры, зв.рок, зв.раваты*

*Вецер — в.тры, в.трык, в.траны (млын), в.трак*

*Вёдры — в.дро, в.дзерца*

3. Запішыце тэксты пад дыктоўку, растлумачце вядомыя Вам арфаграмы.

Юрый чуў, як усё мацнее артылерыйскі паядынак. Вось ужо ў бой уступілі нашы цяжкія гарматы. Яны пачалі біць па варожай артылерыі. Іх выбухі грымелі далёка за пазіцыямі пяхоты. Ад гэтых выбухаў уздрыгвала зямля. Слухаючы магутны грукат, які ўсё мацнеў наперадзе, камандзір нібы дужэў. Вунь колькі артылерыстаў заступілася за іх...

Нарэшце кулямёты сціхлі. Юрый падняўся. Хоць навокал па-ранейшаму кіпела вялікая бітва, яму здавалася, што настала цішыня.

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё мовы

1. Выпішыце словы, з якімі Вы сустрэліся ўпершыню, і складзіце з імі сказы.

Фрукты — садавіна
яблоня — яблыня
яблоко — яблык (м. р.)
груша — груша
вишня — вішня
черешня — чарэшня
слива — сліва
рябина — арабіна
смородина — парэчкі
крыжовник — агрэст
малина — маліна
клубника — **клубніцы,** трускалкі
земляника — суніцы

* * *

дерево — дрэва
корень — корань
ствол — ствол
крона — крона, карона
ветвь — галіна
ветка — галінка
лист — ліст
почка — пупышка, покаўка
цветок — кветка
быть в цвету — цвісці
цветение — цвіценне
спелый — спелы
саженец — саджанец
саженцевые деревья — саджанцы, флянсы
отросток — парастак
прищепить — прышчапіць
прищепок — прышчэпак
садоводство — садоўніцтва
садовод — садоўнік

2. Прачытайце і запомніце загадкі. Загадайце іх сваім знаёмым.

Сярод лесу дзяжа кісне, хто ідзе — кіем свісне. (Яблыня.)

Румяны Піліп да палкі прыліп. (Яблык.)

Чырвонае цельца, каменнае сэрца, вінная на смак, а завецца як? (Вішня.)

На градзе агонь ірдзее,
Не пячэцца і не грэе.
Ён пахучы і прыгожы,
Нават дождж заліць не можа.
І з такіх агнёў-праменяў
Вараць смачнае варэнне.
(Клубніцы.)

Чырвоная шапачка, белая галоўка. (Маліна.)

## *ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ*

Прачытайце тэкст і перакажыце яго.

#### НЕЗВЫЧАЙНЫЯ БУДЫНКІ

Навагрудак прывабіў ленінградскіх археолагаў тым, што вакол яго шмат паселішчаў і курганных могільнікаў з тыпова славянскім інвентаром. Пасля працяглых пошукаў археолагі вырашылі даследаваць тэрыторыю пасаду, які ў XII стагоддзі стаў вакольным горадам. Тады яго абнеслі валам, першапачатковая вышыня якога была каля трох метраў, шырыня — каля дзесяці метраў.

Усе пабудовы XII — XIII стагоддзяў у вакольным горадзе былі наземнымі. Хаця жылыя будынкі захаваліся дрэнна, тое, што ацалела, выразна разыходзіцца з уяўленнямі, якія стварыліся ў навуцы пра жыццё таго часу. У рэштках пабудоў старажытнага Навагрудка ўражвала ўсё: іх вялікія, да ста квадратных метраў, памеры ды наяўнасць цэглы і аконнага шкла, што траплялася сярод будаўнічых рэштак. Было знойдзена шмат рэчаў раскошы. Але найбольш здзівілі сцены адкапанай пабудовы. Яны былі атынкаваныя і пакрытыя фрэскавым роспісам. Паводле меркаванняў мастацтвазнаўцаў, малюнак складаўся з чырвонага поля і сюжэтных абразкоў. Вучоныя адзначылі, што агульны характар роспісу адрозніваў яго ад царкоўных фрэскаў. Гэта ўнікальная з'ява ў грамадзянскіх пабудовах таго часу.

Яшчэ адна асаблівасць жылых пабудоў вакольнага горада таго часу — шкляныя вокны. Як вядома, нават у XVI стагоддзі такія вокны былі рэдкасцю.

**Паводле кнігі «Старажытны Навагрудак» археолага Ф. Д. ГУРЭВІЧ.**

# «СВАБОДА, СВАБОДА І ЯШЧЭ РАЗ СВАБОДА!»

(Заканчэнне. Пачатак у № 12).

*Аўген* КАЛУБОВІЧ

## *Знаёмства з Сіманоўскім*

...Ачнуўся я на насілках у якімсь калідоры. Нахіліўшыся нада мною ў заплямленым белым халаце стаяў лекар. Адна ягоная рука на маёй руцэ (ён, відаць, правяраў пульс), а ў другой я заўважыў бутэлечку, з якое ішоў пах нашатырнага спірытусу.

Моцна білася сэрца. Стукала ў скронях. На ілбе, у месцы, дзе я адчуваў лёгкі боль, я намацаў гузак і засохлую кроў. Не магу зразумець: дзе я? Чаму на насілках? Як трапіў сюды?.. Я паспрабаваў падняцца з насілак. З цяжкасцямі, памалу ўстаў, але ісці не магу — хістаюся, як п'яны, цямнее ў ваччу. Назад, у турму, мяне прывезлі аўтам. Тут даведаўся, што мяне не было трое сутак. Калі я апрытомнеў, я пачаў прыгадваць спярша паасобныя дэталі, а потым звязваць іх у храналагічную цэласць, каб адтварыць, што здарылася.

Усё пачалося позна ўначы. У камеру па мяне прыйшлі дзяжурны начальнік з двума наглядчыкамі. Яны загадалі «немедленно следовать» з імі. Куды — не сказалі. А сам я не ведаў што і думаць. Следства нашае закончана. Мы чакаем на прысуд. Куды ж яны мяне вядуць?

У канцылярыі турмы нас чакалі два жаўнеры ГПУ із стрэльбамі. Дзяжурны начальнік пад распіску здаў мяне ім. Неўзабаве яны павялі мяне да дзвярэй кабінета начальніка ІСО ГПУ Сіманоўскага. У раскошна абстаўленым пакоі за сталом я ўбачыў фігуру, каторая хутчэй нагадвала не чалавека, а драпежную птушку. Пад смалістымі матлахамі галавы нос — дзюбаю. На ёй пенснэ ў залатой аправе, за шкелцамі якога бегаюць колкія вочы. Гэта і быў Сіманоўскі... Пацікавіўся:

— Как себя чувствуете?

Выхапіў з кішэні срэбраны партсігар, працягнуў яго праз стол у мой бок і прапанаваў:

— Курите? Может быть хотите поменять камеру?

Затым пачаў тлумачыць прычыну майго выкліку:

— Я, видите ли, даўжэйшы час не быў у горадзе. Адпачываў на курорце. Вярнуўшыся, перагледзеў пратаколы следства вашае справы і абвінаваўчае заключэнне. Пры чытанні іх у мяне ўзніклі некаторыя пытанні... Ён зрабіў паўзу, адкінуўся на спінку крэсла і запытаўся:

— Ці не маглі б вы сказаць нам: хто яшчэ вашыя сообщники и единомышленники?

Узяў са стала якіясь паперкі, перакінуў іх у сваіх руках і дадаў:

— Міськевіч? Сухан? Храмянкоў?.. Назавеце — хто? Ці ведалі капітана Дудзяна? З кім ваша арганізацыя была звязаная ў сваёй контррэвалюцыйнай дзейнасці? Ці была ў вас якаясь сувязь і з кім у Менску? Ці мелі вы сувязь із Сьпілкаю Вызвалення Украіны? Із замяжою?

Адказы былі: Не! і не! Нікога болей і ніякіх сувязяў ні з кім. Мажліва, я быў недастаткова карэктным і стрыманым у сваіх адказах на ягоныя пытанні. Мае адказы часта былі ў форме пытанняў, не прывычных для яго вушэй. У сваім мяккім крэсле Сіманоўскі пачаў ёрзацца, падскакваць. Вочы ягоныя загарэліся гневам. Ён стукнуў кулаком па стале і закрычаў:

— Всю эту контрреволюционную сволочь мы сметём с лица земли. На их костях мы построим новое, коммунистическое общество... Ідэалізаваная вамі беларуская культура ў мінулым — гэтыя вашыя... як іх? Скарыны, Багушэвічы, Багданоўскія — усё гэта блеф, царкоўныя і буржуазныя ідэолагі, ворагі дыктатуры пралетарыяту і пралетарскай культуры...

Афіцыянтка прынесла яму шклянку какавы і бутэрброд з маслам і каўбасою. Ён адпіў пару глыткоў і працягваў:

— Контррэвалюцыйная Беларуская Рада? Антысавецкія мяцяжы? Я добра ўсё гэта памятаю. Я стары чэкіст, і я сам прымаў удзел у разгроме стракапытаўскага мяцяжу ў Гомелі. Гэту сволач я сам расстрэльваў сваімі рукамі.

Пасля такой доўгай тырады ён зноў пачаў атакаваць мяне пытаннямі:

— Хто распаўсюджвае вашы адозвы ў Хойніцкім і Брагінскім раёнах? Хто страляў у начальніка Брагінскага ГПУ?

— На гэтыя пытанні я ўжо адказваў. Як я магу ведаць пра гэта, калі я ў вас пад замком? Як я магу...

Сіманоўскі не даў мне дагаварыць да канца. Рэзкім рухам схапіў са стала якісь канверт і пачаў трэсці ім перад маім тварам.

— А гэта вы можаце?

Із жахам я пазнаў, што гэта мой ліст. Такой нечаканасцю быў ашаломлены. Праўда, гэта ліст да бацькі, а не да кагось іншага, на каго я мог бы кінуць цень падозрання... Будучы пазбаўлены права ліставання, ліст гэты я тайна даручыў укінуць у паштовую скрынку дробнаму крыміналісту Штэйну, які канчаў свой тэрмін зняволення і часта на колькі гадзінаў меў пропускі «на волю». На нашым калідоры ён мыў падлогу. Цяпер я зразумеў, што Штэйн — правакатар. Мой ліст заміж паштовае скрынкі ён перадаў адміністрацыі турмы, а тая — у ГПУ... А Сіманоўскі, далей наступаючы на мяне з пагрозамі, крычаў:

— Хто яшчэ? Хто?..

Я згубіў кантроль над сабой. Нервы мае не вытрымалі. Адно імгненне я бачыў толькі чарнільніцу і твар Сіманоўскага. Чорт рвануў маёй рукою да чарнільніцы. Але Сіманоўскі, разгадаўшы мой намер, коршунам сарваўся із свайго седала і ўдарыў па маёй руцэ. Тады націснуў гузік на стале і загадаў ускочыўшаму ў кабінет жаўнеру:

— Забярэце яго ў карцэр!

Далей я амаль нічога не магу прыгадаць. Памятаю толькі першыя колькі хвілінаў, як жаўнер правёў мяне ў якісь цёмны калідорчык падвала, адчыніў якіясь дзверы і штурхнуў у спіну. Я грукнуўся аб блізкую сценку і паляцеў на каменную падлогу. Усхапіўся, каб устаць, але ілбом стукнуўся аб столь і асунуўся на калені. У поўнай цемені нічога не мог разгледзець. Абмацаўшы рукамі катушок, я пераканаўся, што стаяць у ім нельга — такая тут нізкая столь. Легчы нельга таксама — даўжыня катушка шмат карацейшая за мой рост. Мне здалося, што дыхаць стала цяжэй. Эге, падумаў я, дык у гэты каменны мяшок няма доступу паветра?.. Доўга разважаць мне не давялося. Я адчуў, што пачынаю задыхацца, і згубіў прытомнасць...

## *«Анекдотчыкі»*

Масавыя арышты за якуюсь «правіну» ў СССР ідуць хвалямі. Прычым, «правіны» гэтых хваляў заўсёды мяняюцца: то ідзе хваля «шкоднікаў», то «золатаманетчыкаў», то «кулакоў», то «буржуазных нацыяналістаў», то «шпіёнаў і дыверсантаў», то «тэрарыстаў», якія рыхтуюць замах на жыццё Сталіна... і г. д. Ствараецца ўражанне, што «правіны» гэтыя для арыштаў плануюцца згары: калі не ў самім Палітбюро ЦК Камуністычнай партыі, то не без ягонай апрабаты.

Неўзабаве пасля вывазу з нашага лагпункта казахаў да нас прыйшоў новы этап. У лагеры яго назвалі «анекдотчыкі». Вязні з гэтага этапу былі засуджаны пераважна за антысавецкія анекдоты. Пачыналася хваля «анекдотчыкаў».

У гісторыі вуснай народнай творчасці свету невядомыя выпадкі, каб творцаў ці пераказчыкаў народных твораў судзілі і каралі турмою і канцэнтрацыйным лагерам. Унікальнае выключэнне — СССР.

Селянін із калгаса прыйшоў у раённы цэнтр. Ідзе вуліцай і чытае шыльды: Райком партыі, Райвыканком, Райміліцыя, Рай...

Ён скінуў шапку і перахрысціўся:

— Нарэшце я вырваўся із пекла.

Ідзе ўрачысты калгасны сход. Старшыня калгаса чытае пастанову праўлення пра ўзнагароды лепшых калгаснікаў.

— Трэцяя прэмія — даярцы Ганне Красулі — хустка.

— Другая прэмія — конюху Якубу Хвасту — патэфон.

— Першая прэмія — свінарцы Прузыне Парсюк — поўны збор твораў Леніна.

Голас у салі:

— — Так ёй, сцерве, і трэба!

Рыбак сядзеў на беразе ракі з вудаю і ўбачыў, што топіцца чалавек. Не разважаючы, ён кінуўся ў ваду і выцягнуў тапельца.

— Ты выратаваў мне жыццё,— сказаў тапелец.— Чым я магу табе адудзячыцца?

— А хто вы будзеце?

— Я — Сталін.

— Тады найбольшая мая просьба: нікому не кажэце, што я вас выратаваў.

На экзамене па гісторыі ў VII класе экзаменатар пытае вучня:

— Што такое СССР?

— СССР — гэта наша дарагая маці-радзіма.

— А кім ёсць для нас таварыш Сталін?

— Таварыш Сталін — наш любімы айцец.

— Добра. А кім жа ты хочаш быць, калі вырасцеш?

— Сіратою.

Упершыню анекдоты гэтыя (і шмат іншых) я пачуў у лагеры. Калі вярнуўся з лагера «на волю», пачуў усе іх і тут,— яны шырака хадзілі ў народзе.

У нашай роце спаміж іншых «анекдотчыкаў» быў трамвайны кандуктар з Віцебска Кавалёў. Фактычна ён і не «анекдотчык», хоць і засуджаны, як усе «анекдотчыкі», паводле арт. 58, п. 10 КК РСФСР. Гісторыя ягоная для СССР не была незвычайнаю.

На кастрычніцкім банкеце ў трамвайным парку ўсе добра выпілі. Языкі іхныя развязаліся, і яны пры стале пачалі расказваць анекдоты, жарты, загадваць загадкі. Нічога антысавецкага пры гэтым не было. Кавалёў загадаў такую загадку: «Адны сядзяць, а другія трасуцца і чакаюць на сваю чаргу сесці». Адказ павінен быць вельмі просты: пасажыры трамвайнага вагона. Але іначай думалі ў ГПУ, куды хтось ужо паспеў пра загадку данесці. Кавалёва праз колькі дзён арыштавалі. На допытах ён бараніўся як толькі мог.

— Да ты брось отливать мне пули! — крычаў на яго следчы.— Ты что думаешь, советская власть — дурочка? Да ведь здесь каждый идиот поймёт, что речь идёт не о каком трамвае, а о нашей дорогой социалистической родине!

— Але ж я гэтага не казаў.— Гэта вы так кажаце.

— Не рассуждать! — стукнуў кулаком па стале следчы.

Хутка маскоўская «тройка» дала Кавалёву 3 гады канцэнтрацыйных лагераў. Небарака меў язву страўніка. І пры лагерным харчаванні і ўмовах тэрміну не дацягнуў і да паловы. Памёр у бараку «дахадзягаў».

*Чыталі?*

## Светлая туга па Радзіме

Вось набыў цікавы зборнік паэзіі і вельмі захацелася надзяліцца думкамі з некім. А «Наша слова» для мяне ўжо амаль другі год лепшы сябра. А з кім шчыра пагаворыш, калі не з сябрам.

Добры падарунак чытачам зрабіла выдавецтва «Мастацкая літаратура», выдаўшы зборнік беларускай эміграцыі «Туга па Радзіме» (1992). Мудры Эклезіяст сказаў: «Усяму свой час, і час кожнай з'явы пад небам... час раскідваць камяні, і час збіраць камяні...» Сапраўды, прыйшоў час збіраць згубленае, тое, што ў свой час было выкінута са скарбніцы нашай культуры. Барыс Сачанка (шчыра дзякую яму) зрабіў вялікую справу: дбайна сабраў духоўныя каштоўнасці беларускага замежжа і вярнуў іх Бацькаўшчыне. Кніга «Туга па Радзіме» знаёміць чытача з паэтычнай творчасцю людзей, пра якіх мы мала што ведаем, а лёс якіх у сваёй большасці быў трагічным. У кнігу ўвайшлі творы выдатнай паэткі Наталлі Арсенневай і таленавітых нашых суайчыннікаў — В. Адважнага, У. Дудзіцкага, Я. Золака, А. Змагара, М. Сяднёва, А. Салаўя, М. Кавыля, А. Бярозкі, С. Ясеня, Р. Крушыны, У. Клішэвіча, Я. Юхнаўца і інш.

Іх творчасць яшчэ чакае сваіх даследчыкаў. Нарэшце ёсць магчымасць на саміх сябе паглядзець інакш, адчуць, які каштоўны дар прыняла беларуская культура.

*На гадзіну пазбаўлюся негадзі*
*Адзіноцтва, тугі і турбот.*
*Паплывуць мае думкі, як лебедзі,*
*Да цябе, дарагая, на ўсход.*

**В. Адважны, «Да цябе, дарагая».**

Сапраўды, няма мацнейшага палону для душы эмігранта, чым Радзіма. Цяжка жыць на чужыне, калі душа «дома». Цяжка жыць на чужыне без душы, і вельмі шкада такіх людзей, што жывуць там не па сваёй волі.

*Жураўлі, мае сёстры, браты,*
*Як не выстаю, сум мо задўшыць,*
*Па дарозе ў святую святых*
*Захапіце з сабой маю душу.*

**М. Кавыль, «Жураўлі».**

Няма ўжо між жывымі Адважнага Вінцука, Уладзіміра Клішэвіча, Алеся Смалянца і Рыгора Крушыны, даўно загінуў у аўтакатастрофе Хведар Ільяшэвіч. У Аўстраліі пахаваны А. Салавей. Яшчэ радуе голас У. Дудзіцкага, Н. Арсенневай, М. Кавыля, М. Сяднёва, Я. Юхнаўца. У «Мастацкай літаратуры» выйшлі зборнікі Арсенневай «Пад сінім небам» і Сяднёва «Птушыныя зоры». Хоць пакрысе, павольна-марудна, але спадчына вяртаецца — жыве Беларусь!

*Калі б сюды буслы ляталі,*
*Калі б тут ластаўкі жылі,*
*Мы б крыху меней сумавалі*
*За морам на чужой зямлі.*

**У. Клішэвіч, «На чужыне».**

Андрусь **КАМІСАРАЎ**,
студэнт **ГДУ**.




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

На шматфарбным палатне еўрапейскай паэзіі XIX стагоддзя сціплым, але прыгожым узорам выглядаюць вершы класіка славенскай паэзіі Францэ Прэшарна (1800—1849).

**Францэ ПРЭШАРН**

### З «Санетаў смутку»

У афрыканскай стоенай пустыні
Вандроўнік згубіць сцежку і уночы
Чакаць світання доўга не захоча
І на пясок дарожны плашч свой кіне.

Праб'еццд месяц з воблачных вышыняў —
Убачаць і спалохаюцца вочы:
Гняздзяцца побач змеі, тыгры сочаць
За ім, і галаву ўжо леў ускінуў...

Вось так і хлапчуку даўно карцела
Праз сёння ў заўтра зазірнуць іначай —
На ім заслона тайніцай вісела.

А ноч мінула, і юнак убачыў
Жыцця гнюсоту, бруд душы і цела,
І бездань, прад якою людзі плачуць.

* * *

Варожае мне шчасце, ты — блудніца,
І ўсё ж цябе душа не папракала:
Прывык я да твайго, зласліўка, джала,
Да мук тваіх, жыццёвая цямніца.

Прывыклі плечы з цяжарам радніцца,
Для вуснаў гаркаты было нямала,
І скура грубай, як падэшва, стала —
Яна калючых церняў не баіцца.

І цела скамянела ўсё ад плачу,
Дух стаймавалі ланцугі няволі,
Жывое сэрца — без крыві гарачай.

Страх знік зусім, я ўжо глухі ад болю:
Набі мяне альбо пагладзь удачай,—
Я не адчую гэтага ніколі.

### Memento mori!

Жыццё наша кароткае такое!
Колькі знаёмых — у зямельных спратах,
І нам пара збірацца ўжо дахаты,
Але калі — не ведаем пра тое.

Ад смерці плачам, крушняй залатою
Не адкупіцца бедным і багатым,
Яна гвалтоўна прыйдзе і на свята
Ды забярэ абранага з сабою.

Хай помніць той, хто радасны, шчаслівы
Ляціць праз гора і не бачыць гора,—
Яго таксама даспявае жніва.

І ён, што весяліцца ў непакоры,
На страшным ложы сціхне палахліва
І ў жаху закрычыць: «Memento mori!»

Пераклад са славенскай
Янкі СІПАКОВА.

*Чыталі?*

# Міністр інфармацыі — перакладчык

Не так ужо часта здараецца, калі беларускамоўная кніга за пару дзён знікае з прылаўка кнігарні. І таму хочацца сказаць, што вялікую справу робяць тыя людзі, што перакладаюць на беларускую мову сусветную класіку, да якой адносяцца і творы такіх жанраў, як дэтэктыў, фантастыка, прыгоды. Якніяк, а добрая кніга спрыяе прэстыжу мовы, асабліва цяпер, калі ідзе змаганне за адраджэнне беларушчыны.

Нядаўна ў кнігарнях з'явілася і тут жа была раскуплена кніга польскага пісьменніка Станіслава Лема «Прыгоды Піркса», якую пераклаў Максім Валошка. Невялікі кошт, добрае мастацкае афармленне і знакамітае імя аўтара ўсё-ткі, відаць, паспрыялі попыту, бо, як правіла, цяпер большасць кніжак, якія раскупліваюцца — рускамоўныя пераклады рознай бульваршчыны. Пераклады на рускую мову робяцца часцей людзьмі, якім патрэбны толькі грошы, а не мастацкасць. На шчасце, пераклад Максіма Валошкі — гэта па-майстэрску зроблены твор, бо перакладчыку ўдалося захаваць непаўторны «лемаўскі» гумар, знайсці беларускія адпаведнікі сакавітым выразам аўтара.

Магчыма, некаму падасца, што я аддаю зашмат увагі «нейкай там фантастыцы», хай і на беларускай мове, бо сёння, як паветра, патрэбны выданні па беларускай гісторыі і культуры. Але, на маю думку, і кніга фантастыкі ў добрым перакладзе зробіць нямала для адраджэння беларушчыны, бо такую кнігу купляюць і чытаюць не толькі людзі, якія валодаюць беларускай мовай. Пашкадаваўшы, што кніга «Прыгоды Піркса» выйшла накладам толькі 12 тысяч паасобнікаў, хочацца раскрыць невялікую таямніцу: за псеўданімам «Максім Валошка» хаваецца міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч.

**Л. Ш.**

*Вечарыны*

# Што засмучае і насцярожвае

*«Наш сцяг, што нікому, нікому на свеце, нікому*
*Не дам асмяяць, апаганіць,*
*забіць ці мячом зваяваць».*
***У. КАРАТКЕВІЧ***

У сярэдзіне лютага па Беларускім тэлебачанні паказалі вечарыну ў гонар паэтаў Брэста А. Касько і М. Пракаповіча, чые творы ўключаны ў кнігу «Каласы роднай мовы». Вядучым быў паважаны берасцеец, літаратуразнаўца, прафесар Уладзімір Калеснік, вядомы таксама як паплечнік знакамітых пісьменнікаў У. Караткевіча і А. Карпюка. Вечарына была цікавай, нават захапляючай. Атрымалася сапраўднае свята беларускага мастацкага слова.

Але адно засмуціла і нават насцярожыла: недзе на перыферыі ўвесь час аператар і рэжысёр трымалі беларускую нацыянальную сімволіку. Ды так старанна, што ў ходзе вечарыны ані воднага разу выразна не вызначыліся ні наш сцяг, ні «зорка Пагоні».

Гэта наводзіць на думкі. На вечарыне прысутнічала душа народа — мова. Куды ж было падзецца? Але адсутнічалі прыкметы народнай дзяржаўнасці. У часе прагляду пасяджэнняў Вярхоўнага Савета кожны раз заўважаеш — прысутнічае, здаецца, дзяржаўнасць, але назіраецца бездухоўнасць. А ў некаторых дэпутатаў прынамсі няма (прабачце) ні аднаго, ні другога. Мала што не прызнаюць мову, дык той-сёй шчэ кідаецца «ў атаку» з высокай трыбуны на дзяржаўныя сімвалы, на сцяг. Ганіць сцяг краіны, вярхоўны орган улады, які як быццам сам павінен прадстаўляць!

Вось і думаеш: знарок гэта ўсё ці па якой іншай прычыне? Але на душы ўсё роўна трывожна.

**В. БАРБОЛІН,**
**тэлеглядач з Брэста.**

*Чыталі?*

# Першая «Пралеска»

Дарослыя і малыя сябры часопіса «Пралеска» атрымалі яго першы нумар за гэты год. З вокладкі нам добразычліва ўсміхаецца выхавацель дзіцячага сада № 239 Менска Алена Ігараўна Радкевіч. І гледзячы на яе, верым, што ў нашых садках працуюць добрыя, надзейныя людзі, энтузіясты і вынаходцы, якім даручаем лёс нашай будучыні. У асноўным для іх і аб іх супрацоўнікі часопіса падбіраюць цікавы і разнастайны матэрыял. Яны ў пошуках. І кожны нумар прыносіць нешта новае і вельмі патрэбнае.

Радуе «Ліст рэдактара», што адкрывае часопіс («Новыя спадзяванні») і ў якім спадар Сачанка не толькі дзеліцца планамі, навінамі («...побач з існуючымі рубрыкамі паявяцца новыя, больш актуальныя, набліжаныя да жывога жыцця... мяркуем выйсці на праблемы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў, гісторыю дашкольнага выхавання Беларусі... больш шырока паказаць замежны вопыт, сямейнае выхаванне, расказаць пра новыя віды ясляў-садоў і многае іншае»), але і спадзяецца на нашу дапамогу і парады. Думаю, што будзем узаемаветлівымі і добрымі дарадцамі адзін другому.

Багаты на разнастайны матэрыял раздзел «На шляху нацыянальнага Адраджэння». Ён пачынаецца з інтэрв'ю з загадчыкам Гомельскага аблуна Ф. Р. Забродскім («Побач з намі — дзеці, яны — наша сёння і наша заўтра»). Гаворка ідзе пра тое, што хвалюе, руціць сёння кіраўнікоў, педагогаў, выхавацеляў, «як знаходзяць яны ў шэрай будзённасці першародныя самародкі, дбайна росцяць-даглядаюць самыя першыя, самыя кволыя парасткі нашай Надзеі».

Галіна Кашэўнікава ў артыкуле «Вяртанне да першародных крыніц» знаёміць нас з думкамі, роздумамі, меркаваннямі, набыткамі, што прагучалі на рэспубліканскім семінары кіраўнікоў дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў і спецшкол, і з «першымі парасткамі ў выхаванні нацыянальнай самасвядомасці маленькіх беларусаў» у гэтых установах.

На семінары, бадай, упершыню, як зазначае аўтар, на пярэдні план выйшлі пытанні духоўнага развіцця і разглядаліся яны праз прызму Закона аб мовах. Адзначаецца, што з 160 дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў пачалі пераход на беларускую мову 65. Размова ішла не проста пра перавод выхавання і навучання на родную мову, а значна шырэй — пра далучэнне дзяцей да духоўных каштоўнасцей свайго народа. Але, як высветлілася, у гэтай вялікай і складанай рабоце катастрафічна не хапае метадычных, дыдактычных і іншых матэрыялаў. Выхавацелям, педагогам сёння патрэбны дапаможнікі з дакладна выверанымі рэкамендацыямі.

Галіна Кашэўнікава зазначае, што «вельмі не хапае зацікаўленасці, дапамогі метадычных службаў, навукоўцаў з кафедраў беларускай мовы і фальклору, навукова-даследчых інстытутаў. Пытанне з пытанняў: як перавесці на беларускую мову навучанне малышоў, якія не бачаць або не чуюць? Хто выпусціць для іх літаратуру?».

Звяртаецца слушная ўвага на тое, што «трэба наладзіць мэтанакіраваную падрыхтоўку спецыялістаў, здольных весці працэс нацыянальнага адраджэння», бо сёння «да цудоўнага букета тых якасцей, якімі абавязаны валодаць выхавацель, педагог, павінна дадацца яшчэ адна — дасканалае валоданне беларускай мовай, веданне культуры і гісторыі свайго народа».

Часопіс звяртае ўвагу чытачоў і на такое пытанне: якім быць памяшканню і тэрыторыі ясляў-сада?» («Дзіцячы сад: учора, сёння... а заўтра?»).

З апавядання «Вялікае княства Літоўскае» маленькі чытач даведаецца, што «каб выстаяць у змаганні з чужынцамі, славянскія і літоўскія княствы пачалі аб'ядноўвацца ў адзіную новую дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае», што «зямля, якая ў летапісах завецца Літвой, ляжала... на абшарах цяперашняй Беларусі», што «першай сталіцаю новай дзяржавы стаў беларускі горад Навагрудак» і пра многае іншае.

Сёння, калі мы адзначаем 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, калі перад намі адкрываецца многа новага і дагэтуль невядомага пра гэтага незвычайнага чалавека, да месца назваць і артыкул А. Марціновіча «Габрыелавы прысады і песня вечнасці» — пра творы для дзяцей, выдатную ацэнку якім даў народны пісьменнік Беларусі Я. Брыль: «...мне і тады, за партай, сёння, праз мноства насычаных-перанасычаных гадоў, надзейна адчувалася і адчуваецца тая краса, ад якой і лепей бачыш далёка навокал сябе, і жыць хочацца разумна і прыгожа». Акрамя артыкула, можна пазнаёміцца і з двума невялічкімі творамі «Вясна, вясна красная!», «Бедны, бедны верабейка!».

Раздзел «Традыцыі, абрады, фальклор» прадстаўлены матэрыяламі «Засяваем на Масленіцу» і камбінаванымі і забаўляльнымі заняткамі пра гуканне Вясны — «Прыдзі, вясна, з радасцю!».

Пра цеплыню сямейных адносін, пра паэзію для дзяцей, пра іх выхаванне раім прачытаць інтэрв'ю Л. Забалоцкай з паэтамі Людмілай Рублеўскай і Віктарам Шніпам «І выратуе свет паэзія...». Вершы Віктара і адна з казак Людмілы пра мышку Пік-Пік («Мышка Пік-Пік робіць макіяж») змешчаны ў раздзеле «Чытанка «Пралескі».

Добрым дарадцам па пытаннях узроставай псіхалогіі з'яўляецца раздзел «Псіхалагічны практыкум», які на гэты раз змяшчае артыкулы Л. Агеевай «Паразмаўляй са мною, тата!» і Ю. Карандашова «Маленства: асновы ўзроставай псіхадыягностыкі развіцця».

Што «пчолка мёду ў вулей без М не прынясе...» і што «адзінаццаць — лічба няцотная, але шчаслівая», дзеці даведаюцца з «Азбукоўніка і лічылкі» Зосі Куставай, якім адкрываецца раздзел «Методыка. Вопыт. Планаванне». Раім звярнуць увагу на артыкул Л. Глазырынай «Спосабы навучання беларускай мове на занятках па фізічнай культуры».

З'явіўся новы раздзел «Экалагічная сцяжынка», якая знаёміць з месяцам лютым («Пара мяцеліц»), вучыць, як падрыхтаваць «Кветкі да свята», запрашае ў «Літаратурнае падарожжа ў прыроду».

На гэты раз багаты на разнастайны матэрыял і раздзел «Школа маладой сям'і». Тут і адказы на пытанні, публікацыя па астралогіі, парады доктара медыцынскіх навук.

Цудоўны атрымаецца вожык, калі выкарыстаць парады рубрыкі «Зробім разам». Добрыя парады дае «Буквар Дамавічка», а «З куфэрка Тацціны» даведаемся, як захаваць надалей маладосць і прыгажосць. А калі прыгатаваць яшчэ стравы з беларускай кухні «Смачна есці!», прачытаць ды яшчэ і скласці самому «Каламбур», то жыццё пакажацца не такім ужо і празаічным.

**Г. ХАТКЕВІЧ.**

## Таленты народныя



Харавы калектыў Гомельскага вышэйшага прафесійнага вучылішча машынабудаўнікоў стаў пераможцам сярод ПТВ на абласным фестывалі мастацкай самадзейнасці. Цяпер будучыя машынабудаўнікі разам са сваім кіраўніком Святланай Вішнеўскай рыхтуюцца да новых сустрэч з гледачом, а таксама да чарговага агляду-конкурсу, які адбудзецца ў красавіку.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ,
Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.
БЕЛІНФАРМ.

## Лаўрэаты першых прэмій БГАКЦ

**Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр заснаваў дзве ўласныя ганаровыя прэміі. Першая, якая мае назву «За грамадскую чыннасць», уручаецца асобам, што зрабілі значны ўклад сваёй грамадскай дзейнасцю на карысць беларускага Адраджэння. Другая, літаратурная, прызначаецца паэтам, празаікам, драматургам, публіцыстам — аўтарам твораў, якія спрыяюць выхаванню нацыянальна свядомай эліты ў Беларусі. У камісію па прэміях БГАКЦ увайшлі дырэктар Цэнтра, кінарэжысёр і педагог Уладзімір Колас, выкладчыкі ліцэя пры БГАКЦ, вядомыя грамадскія дзеячы, літаратары, педагогі В. Вячорка, П. Васючэнка, Зм. Колас, Л. Баршчэўскі, В. Сёмуха, А. Сідарэвіч, А. Трусаў, а таксама навучэнцы названага ліцэя В. Канышка і Я. Усошын.**

**Тайным галасаваннем тытул лаўрэата прэміі БГАКЦ 1993 года «За грамадскую чыннасць» прысуджаны прафесару БДУ Аляксандру Абрамовічу, тытул лаўрэата літаратурнай прэміі БГАКЦ 1993 года — паэту і перакладчыку Алесю Разанаву.**

**Напярэдадні Дня 25 сакавіка ў памяшканні БГАКЦ адбылося ўрачыстае ўручэнне прэмій лаўрэатам, якія выступілі з дзесяціхвілінными лекцыямі перад прысутнымі членамі камісіі па прэміях, выкладчыкамі і навучэнцамі ліцэя пры БГАКЦ.**

**Лекцыя праф. А. Абрамовіча была прысвечана прававым аспектам фарміравання нацыянальна свядомай грамадзянскай супольнасці ў нашай краіне.**

**Алесь Разанаў у першай частцы сваёй лекцыі разважаў пра ролю творцы ў духоўным адраджэнні нацыі, у другой частцы прачытаў некалькі сваіх новых вершаказаў.**

**Лаўрэаты прэмій, акрамя ганаровых дыпломаў, атрымалі ўзнагароду ў выглядзе беларускай грашовай купюры самага буйнога наміналу — як гэта прадугледжана ў Палажэнні аб прэміях БГАКЦ.**

**Наш карэспандэнт.**



### *Пародыі*

*Міхась СКОБЛА*

## Не хадзіце басанож

*Дык колькі гадоў не хадзіў я*
*Па роднай зямлі басанож?*
*Дык колькі, пытаюся, колькі?*
*Ды справа, урэшце, не ў гэтым,*
*Што босы даўно не хадзіў.*

**Ул. ПАЎЛАЎ.**

На радасць кузюркам і восам,
Што тнуць, як навостраны нож,
Гуляе падкрэслена босым
Паэт, хоць вазьмі ды стрынож.

Блукае ад хаты да хаты —
Нідзе не бяруць на пастой,
Бо бачаць, што хоць таўставаты,
Хоць босы, але не Талстой.

Да плуга, здаецца, не падкі,
Натурай — таксама не Леў...
Намуляў ружовыя пяткі —
Спалохаўся — ледзь не самлеў.

У полі паэт заначуе,
І сон занатуе, як ён
Нагамі паэзію чуе —
Ну вось вам і шпацыраў плён.

Цюкуе вандроўныя спыткі,
Цікуе — ці хоць наслядзіў...
Стаптаўся паэт ўвачавідкі,
Бо шмат неабутым хадзіў.




## *Д. ДЖАРВІС: Нацыянальныя асаблівасці людзей і народная медыцына*

(Працяг. Пачатак у №№ 9—12).

Як павінны харчавацца людзі адмоўнага тыпу? Іх арганізм лепш засвойвае мёд, перапрацаваны пчалой, чым рафінаваны цукар. Дастатковая сутачная доза — 4-6 чайных лыжачак. Мёд паляпшае сон, а калі яго ўжываць больш за гэтую норму,— паслабляльна дзейнічае на кішэчнік. Трэба адмовіцца ад страў з мукі тонкага памолу. Яна «пучыць», выклікае ўтварэнне газаў у страўніку, а часам пякотку і запоры. Лепш засвойваюцца аржаны хлеб і вырабы з кукурузы. Што да крупяных страў, то кожны павінен для сябе сам вызначыць, якія з іх яму больш падыходзяць, таксама як і бялковая ежа, якую стварыла прырода для аднаўлення зношаных тканак арганізма (мяса, яйкі, арэхі, гародніна, рыба і іншыя прадукты мора). Пры схільнасці да прастуды, грыпознай інфекцыі, гаймарыту, бранхіту, пнеўманіі трэба перагледзець сутачны рацыён і колькасць у ім бялковай ежы. У гэтым выпадку можна дапамагчы арганізму, ужываючы сістэматычна і ў вялікай колькасці гародніну і фрукты, бедныя на бялок. Узяць, прыкладам, садовыя расліны. Пры вялікай колькасці азотных угнаенняў яны хварэюць. Вялікая колькасць бялку ў ежы садзейнічае з'яўленню хвароб у людзей таксама, як у жывёл і раслін. Гародніна, фрукты, арэхі, бабовыя і прадукты мора рэкамендуецца ўжываць людзям, якія адносяцца да адмоўнага тыпу. Важнай праблемай для іх з'яўляецца абмен кальцыю. Калі яго не хапае ў арганізме дзіцяці — яно слаба расце, у дарослых могуць выпадаць валасы, хварэць зубы, ламацца тонкія пазногці.

У склад валасоў, касцей, зубоў, пазногцяў уваходзяць 10 частак кальцыю і 4 часткі фосфару, якія паступае з ежай у дастатковай колькасці. Кальцыю ж чалавек атрымлівае недастаткова, яго недахоп у арганізме можна кампенсаваць за кошт мёду. Аналіз крыві паказвае, што колькасць кальцыю ў крыві павышаецца праз 2,5 гадзіны пасля прыёму мёду і ўтрымліваецца на такім узроўні на працягу 24 гадзін. Пры штодзённым ужыванні мёду чалавек атрымлівае 10 частак кальцыю, неабходнага для злучэння з 4 часткамі фосфару.

## ● НА ХВАЛЯХ БТ ●

**31 САКАВІКА**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**22.35. НІКа.**
**22.50. На нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета РБ.**

**1 КРАСАВІКА**

**16.05. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. IX клас.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**20.15. Тыдзень беларускага ўрада.**
**21.00. Панарама.**
**0.10. На нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета РБ.**

**2 КРАСАВІКА**

**17.40. Скарбы беларускай гісторыі. Для школьнікаў.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.40. Гаворым па-беларуску.**
**21.00. Панарама.**
**23.30. НІКа.**
**23.45. На нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета РБ.**

**3 КРАСАВІКА**

**10.00. Паказвае Віцебск.**
**14.10. Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі.**
**21.00. Панарама.**
**23.15. НІКа.**

**4 КРАСАВІКА**

**9.35. Латарэя аўтографаў. Для школьнікаў.**
**12.30. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». Дабрачынны канцэрт рок-гуртоў «Мроя», «Уліс», «Крама», «Новае неба».**
**15.05. Кінаэкран-93. Красавік.**
**19.35. Панарама.**
**20.05. Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Дынама» (Менск) — «Нёман» (Гродна).**

## *Беларускія патрыёты!*

**Беларуская Эвангельская Царква — гэта Ваша царква. Калі Вы за духоўнае Адраджэнне Беларусі, калі Вас непакоіць лёс роднай мовы, прыходзьце штоаўторак а 18.30: Менск, вул. Гікалы, 4. Абласная бібліятэка імя Пушкіна (за ЦУМам, дзе раней збіралася «Талака»), другі паверх, маладзёжная зала,— і Вы знойдзеце аднадумцаў.**

**Тэлефануйце: 70-89-87 (Эрнст Сабіла).**

**Пішыце: 2200117, Менск, Любімава, д. 21, кв. 56.**

Рэдактар Эрнэст Ялугін.

Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.

Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
**Індэкс 63865.**

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8507 паасобнікаў.
Зак. 265.

**Падпісана ў друк 29.03.1993 г. у 15 гадзін.**
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.